# НАВІНКІ

17 - 23 кастрычніка 2002 №21(70) Кошт свабодны




# ГІПЭРМАРКЕТ:

## БЛАКТІНАЯ МАРА ЦІ ЧОРНЫ КАШМАР?




Вестка пра рашэньне ўладаў пабудаваць у Ждановічах, што пад Менскам, першы ў Беларусі гіпэрмаркет, як формула-1 абляцела ўсе рынкі сталіцы. «Ну, ціпа, супэрмаркеты ведаем. А што гэта за цуд такі, супэрмаркет з прыстаўкай гіпэр? Аптэка, штолі? На гіпэртанію падобна...» Насамрэч пад выпяндрожнай назвай хаваецца ненасытны гандлёвы монстар, здольны пахаваць ня толькі прыватных прадпрымальнікаў на рынках ды бабулек зь семкамі. Сетка дзяржаўных крамаў і Белкаапсаюз таксама апынуліся перад магільнай ямай. Аднак пераважная большасьць нашых грамадзянаў ня толькі недаацэньвае пагрозы, але й проста ня ведае, што такое гіпэрмаркет і як ён уплывае ня толькі на структуру спажываньня, але й на занятасьць насельніцтва... (Працяг тэмы на стар. 4-5)

## Інфузорыі-туфелькі беларускай палітыкі

Чарговая апазыцыйная палітычная партыя не ўтрымалася ад спакусы падзяліцца. На гэты раз віншуем з родамі АГП і Лябедзьку. Мікрабіялягічнае дасьледаваньне на Стар. 2




## Зямля – сялянам, а падаткі...

У адпаведнасьці з пастановай ураду, да 2004 году ў Беларусі будзе праведзеная ацэнка земляў усіх населеных пунктаў. Зацьверджаны сьпіс з 35 гарадоў, якія падлягаюць поўнай ацэнцы ў 2003 годзе, куды ўвайшлі абласныя й раённыя цэнтры. Пэ заканчэньні ацэнкі земляў урад установіць штогадовы зямельны падатак у выглядзе пэўнага працэнту ад вартасьці ўчастка, які будзе абавязаны плаціць кожны землекарыстальнік. Вартасьць зямлі будзе залежыць ад разьмяшчэньня ўчастка, ягонага добраўладкаваньня і забясьпечанасьці электрычнасьцю, вадаправодам, тэлефоннай сувязьзю, блізкасьцю транспартных камунікацыяў і іншымі фактарамі. Цікава, што самі фактары, у сваю чаргу, ад карыстальнікаў участкаў абсалютна не залежаць...

**Земінспэкцыя ў ПРАСТАКВАШЫНА**

Комікс на стар.8




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 234

Нумар падпісаны да друку 17.10.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз.

## *Навінкі ў тэстах*

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. Каго павіншаваў А.Лукашэнка з 24 гадавінай абраньня?**
А) Папу
Б) Маму
В) С.Хусэйна

**2. Хто праводзіць у Менску акцыю «Чысты горад»?**
А) Скінхэды
Б) Антыфа
В) Экаміліцыя

**3. Якую ўзнагароду атрымаў у Брусэлі беларускі журналіст Аляксандар Старыкевіч?**
А) Срэбная ружа
Б) П'яная рожа
В) Нобэлеўская прэмія

**4. На якім востраве днямі адбыўся жудасны тэракт, у выніку якога загінулі каля 200 турыстаў?**
А) Малі
Б) Балі
В) Адвалі

**5. Што рванула на 29 сэкундзе палёту на касмадроме Плясецк?**
А) Мэтэарыт
Б) Ракета Саюз-5
В) Самагонны апарат

**6. Якога вядомага француза ўзнагародзіў А.Лукашэнка ордэнам Францыска Скарыны?**
А) Люка Бэсона
Б) Жака Шырака
В) П'ера Кардэна

**7. Чым скончыўся матч нацыянальнай зборнай Беларусі па футболу са зборнай Чэхіі?**
А) Перамогай
Б) Нічыёй
В) Як заўсёды

**8. Хто стаў сябрам Нью-Ёркскай акадэміі навук?**
А) Туркменбашы
Б) Узбэкбашы
В) Бульбашы

**9. Колькі складае пэнсія С.Шушкевіча, якую днямі суд пакінуў бяз зьменаў?**
А) Скрыня цьвікоў
Б) Качан капусты
В) 1,5 даляра

**10. Чыя дэлегацыя пачала візыт у Беларусь 14 красавіка?**
А) Бундэстагу
Б) Бундэсвэру
В) Бундэслігі

**11. Зь якой літоўскай партыяй БНФ падпісаў дагавор аб супрацоўніцтве?**
А) Саюз Айчыны
Б) Саюз нерушымы
В) Саюз мяча і арала

**12. На чым у хуткім часе будуць развозіць пошту ў Віцебскай вобласьці?**
А) На гарбу
Б) На самалётах
В) На конях

**13. Што не спадабалася удзельнікам дэманстрацыі ў Варшаве, якіх паліцыя разагнала сьлезацечным газам?**
А) Надвор'е
Б) Паліцыя
В) Эканамічны курс

**14. Лябараторыя якога беларускага заводу адчынілася ў Літве?**
А) Крышталь
Б) МТЗ
В) Аліварыя

**Правільныя адказы**: 1-А, 2-В, 3-А, 4-Б, 5-Б, 6-В, 7-В, 8-А, 9-В, 10-Б, 11-А, 12-В, 13-В, 14-Б

# Памнажэньне дзяленьнем

## *З жыцьця палітычных хламідаманадаў*

Расколы ў беларускіх апазыцыйных партыях ужо сталі банальнай прозай палітычнага жыцьця Беларусі. Скандалы вакол падзелаў БНФ або сацыял-дэмакратаў ўвогуле набылі цыклічны характар, стаўшы своеасаблівай «прытчай ва языцах». Нарэшце прыйшла чарга разрадзіцца й лібэралам.

Як стала вядома, лібэральны крэйсэр апазыцыі – Аб'яднаная Грамадзянская Партыя, якая хавала дагэтуль сваю цяжарнасьць пад слоем рытарычных балахонаў, нарэшце разрадзілася ўласным дзіцём раздору. Кіраўнікі шэрагу райкамаў партыі ў сталіцы склалі зь сябе кіраўнічыя функцыі, а некаторыя нават увогуле выйшлі з АГП. Галоўнай прычынай, па якой былыя паплечнікі Лябедзькі паклалі партбілет на стол, было «аўтарытарны стыль кіраўніцтва лідэра партыі». Маўляў, Лябедзька ўяўляе сабой гэткага міні-Лукашэнку партыйнага маштабу. Да таго ж шмат каму з экс-функцыянэраў не спадабаўся й славуты Лябедзькаў сэкс па тэлефоне зь Нямцовым. Ці мяркуюць лібэралы-раскольнікі ўтвараць якую-небудзь «Разьяднаную Грамадзянскую Партыю», пакуль не вядома.

Між тым, раскол у яшчэ адной буйной палітычнай сэкце Беларусі чарговы раз сьведчыць пра прымітыўную аднаклетачную сутнасьць фактычна ўсіх суб'ектаў беларускай палітычнай фаўны. Усе гэтыя дзяленьні і ядынаньні сапраўды вельмі нагадваюць вазьню аднаклетачных пад мікраскопам. Варта толькі ўважлівей паглядзець праз павелічальнае шкло на саміх апазыцыйных амёбаў і інфузорыяў-туфелек. Для большай дасьціпнасьці возьмем за ўзор жыцьцёвы цыкл аднаклетачнай зялёнай водарасьці хламідаманады (гл. мал.).

1. Пры спрыяльных умовах («добрае грантавае надвор'е») хламідаманада размнажаецца дзяленьнем. Перад дзяленьнем яна перастае рухацца («губляе палітчычную актыўнасьць»), з мацярынскай клеткі вызваляюцца 2-4 клеткі, якія ў сваю чаргу таксама дзеляцца. Такі ёсьць бясполы спосаб размнажэньня хламідаманады, празь які ўжо прайшлі і БНФ, і БСДП «НГ», і камуністы. А цяпер яшчэ й АГП.



Схема дзяленьня клеткі хламідаманады зьяўляецца ўзорам палітычных працэсаў у Беларусі.

2. Пры наступленьні неспрыяльных для жыцьця ўмоваў («скарачэньне фінансаваньня з-за бугра») унутры хламідаманады ўзьнікаюць полавыя клеткі – гамэты. Гамэты выходзяць у ваду і злучаюцца папарна. Пры гэтым утвараецца зігота, якая пакрываецца тоўстай абалонкай і зімуе. Увесну зігота дзеліцца. Гэта полавы спосаб размнажэньня, які мы назіраем на прыкладзе мяцежных сацыял-дэмакратаў Караля, БСДГ Шушкевіча і «Надзеі» Палевіковай, якія робяць патугі да ўзьяднаньня. Аднак, як паказвае досьвед хламідаманады, гэты саюз ня вечны й абрэчаны на раскол, як толькі зноў прыгрэе грантавае сонейка.

Таму пакуль беларуская дэмакратычным апазыцыя не эвалюцыянуе на больш высокую ступень разьвіцьця (напрыклад, да ўзроўню плоскіх чарвей), працэс расколу ў палітычным бамондзе непазьбежны. Супраць прыроды не папрэш●

**Трафім Лысенка,**
генэтык

## *Падрубрыка*

### Пятку за «дзясятку»

Штосьці ня клеіцца ў нашага ўраду фінансавая палітыка. Ці жарты, Беларусь у 2002 годзе паводле тэмпаў інфляцыі ўтрымлівае ганаровае 1 месца сярод астатніх краінаў СНД. Ад пачатку 2002 году спажывецкія цэны ў Беларусі вырасьлі на 23%. Да таго ж усе гэтыя базары вакол увядзеньня расейскага рубля ў якасьці адзінай валюты Саюзу Беларусі і Расеі дадаткова падлівае сьпірцягі ў вогнішча нестабільнасьці, падрываючы тым самым давер грамадзянаў да свайго роднага вушастага. Такая сытуацыя ня можа не адбіцца на грашовай масе беларускіх зайцоў, што шмыгаюць па кашальках нашых суайчыньнікаў. Як стала вядома, *Нацбанк вырашыў выключыць з* абарачэньня купюры вартасьцю 1 і 5 рублёў. Да чаго гэта прывядзе, вядома: усе кошты хуценька будуць абкругленыя, і вядома ў большы бок. У нейкім сэнсе можна было б уздыхнуць з палёгкай, бо шараговы абывацель ужо закалёбаўся калупацца па кішэнях, шукаючы жаданыя капейкі або петакі, што прагна патрабуюць прадаўшчыцы ў любой краме.

У накладзе застануцца хіба што аматары канабісу, якія звычайна выкарыстоўвалі 1-рублёвую банкноту для скручваньня касяку. Цяпер гэтая працэдура будзе каштаваць як мінімум у 10 разоў даражэй. Аднак ня трэба панікаваць і патрабаваць скідак у дылераў: як перадаў бог Джа праз сваіх намесьнікаў на зямлі, неўзабаве рэальны кошт дзясяткі будзе роўны аднаму сёньняшняму рублю.

# Колькі вяровачцы ні віцца...

Як гэта ні банальна гучыць, але Кучма лахануўся канкрэтна. На гэты раз, здаецца, Кучме наступае поўны гэць. У такі папандос не тапляў нават Лукашэнка: прэзыдэнту Украіны шыюць справу. Пасьля іскавай заявы мясцовай апазыцыйнай хунты Юліі Цімашэнкі & С° судзьдзя Апэляцыйнага гарадзкога суду Кіеву Юры Васіленка ўзбудзіў крымінальную справу аж па адзінаццаці (!) артыкулах. Калі справа дойдзе да суду, то па сукупнасьці абвінавачаньняў Лёня Кіеўскі можа загрымець на вышку (пажыцьцёвае зьняволеньне). Адным словам, дагуляўся ў кальчужкі. Тут ужо сапраўды выбар невялікі: альбо «чамадан, вакзал, Расея», альбо «кандалы, этап, на нары», дзе ён з такім паслужным сьпісам дакладна каралём хадзіць будзе. Пагадзіцеся самі, ня кожны аўтарытэт можа пахваліцца такімі артыкуламі:

1. Парушэньне тайны перапіскі (арт.165), незаконнае выкарыстаньне тэхнічных сродкаў для тайнага атрыманьня інфармацыі (арт.368).
2. Невыкананьне грамадзянска-прававых абавязацельстваў (арт.364), самаўпраўства (арт.365)
3. Парушэньне тайны ўсынаўленьня (арт.170), незаконныя дзеяньні адносна ўсынаўленьня (арт.171)
4. Незаконнае ўзьняцьце Дзяржаўнага сьцягу Украіны на рачных і марскіх суднах (арт.346)
5. Разбой (арт.191)
6. Парушэньне правілаў абыходжаньня зь мікрабіялягічнымі рэчывамі (арт.333)
7. Парушэньне раўнапраўя грамадзянаў (арт.163)
8. Замах на жыцьцё грамадзкага дзеяча (арт.112) ●



